# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 17

двухтыднёвая часопісь
для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

год выданьня 4

## ЯК І ДЗЕ?

— Што такое „Як і дзе?“

— А гэта толькі пачатак пытаньня...

— Якога?

— Вельмі і вельмі важнага для ўсіх акцябрат, для ўсіх вучняў і піанэраў малодшых груп.

Гэтае пытаньне павінна паставіць на парадку дня кожная група школы. Поўнасьцю яно азначае:

## ЯК І ДЗЕ ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІСЬ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“?

Адказваем.

У кожнай групе трэба разам з настаўнікам скласьці сьпіс тых, хто падпішацца на часопісь. Потым сабраць патрэбныя грошы, занесьці на пошту і здаць падпіску на адрас групы, якая выпісвае часопісь. Калі група атрымае часопісь, настаўнік раздасьць яе сваім падпішчыкам.

Кожны можа выпісаць часопісь і на свой адрас. Але лепей зьбіраць і здаваць падпіску калектыўна.

**НАСТАЎНІКІ, ВАЖАТЫЯ, ПІАНЭРЫ!** Ваш абавязак дапамагчы акцябратам і ўсім вучням малодшых груп выпісаць часопісь.

Умовы падпіскі: на 1 мес.—30 кап. на 3 мес.—90 кап. на 6 мес.—1 р. 80 к. на 1 год—3 р. 60 к.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# Першы дзень у школе

Увосень мама завяла мяне ў школу. Мы яшчэ не ўвайшлі ў будынак, а ўжо чуваць быў шум нібы пчол у вульлі. Мне стала нават неяк страшна. Разам з мамай я ўвайшла ў школу. Мама стала гаварыць з нейкай цёткай, а я пайшла ў клясу.

Там было многа дзяцей, усе яны шумелі, бегалі, крычалі. Знаёмых у мяне ня было і я прысела на задняй скамейцы да аднае дзяўчынкі, але загаварыць з ёю не асьмелілася.

Званка яшчэ ня было, я агледзелася—мамы ня відаць. Тады я хутка выбегла з клясы на двор, заплакала і кінулася дадому. Я ня чула, што мама кліча і даганяе мяне. Нарэшце яна дагнала, супакоіла і павяла назад.

Калі мы ўвайшлі, зазьвінеў званок. Я зноў села каля тае дзяўчынкі на задняй скамейцы. Зайшла настаўніца. Усе заціхлі. Настаўніца пачала апавядаць, як мы будзем вучыцца, што рабіць. Яна апавядала вельмі добра і ўвесь час усьміхалася. Усе мы скора зусім асвойчыліся тут, а ў канцы заняткаў нават не хацелася ісьці дадому.

*

Цяпер я вучуся ў 5-й групе, перайшла ў 6-ю, але пра свой першы дзень у школе, часта ўспамінаю. Адразу нават сьмешным здаецца, што я баялася, а тады не да сьмеху было.

Успамінаю і тое, што да школы я была ні тое, ні сёе, а як стала вучыцца, стала арганізаваная, запісалася ў акцябраты. Весела было вучыцца і працаваць у акцябрацкай зорачцы!

Цяпер я піанэрка, мяне некалькі разоў выбіралі важатай зьвяна.

Траха што ўсе піанэры нашай групы—ўдарнікі. Для тых, што адстаюць, мы арганізавалі гурткі. У гурткох дзіжураць і настаўнікі. Яны тлумачаць тое, чаго не зразумелі вучні.

Дзеці, уступаючы ў школу, вам трэба канешне:

1. Стаць ударнікамі вучобы, гэта значыць быць лепшымі вучнямі групы, памагаць тым, хто адстае, змагацца з прагуламі, шанаваць кнігі, сшыткі, скамейкі.

2. Стаць дысцыплінаванымі і арганізаванымі. Для гэтага я заклікаю вас запісацца ў акцябраты.

3. Апрача гэтага, вы павінны дабівацца таго, каб усе дзеці да 8 год канешне вучыліся ў школе.

АЛЯ НАУМАВА.

## ДЗЕЦІ, ПІШЭЦЕ НАМ, ЯК ВЫ ВУЧЫЦЕСЯ.



# Школьны гарод

Нарыс М. БАРАВОГА.

Вясёлымі і радаснымі зьбіраліся дзеці ў школу ў першы дзень вучобы. Некаторыя прышлі аж з суседняга калгасу за дзьве вярсты.

Перш за ўсё беглі вучні на свой гарод. Шмат хто з іх даўно ўжо ня быў тут. А цікава, як усё парасло?

Убачылі дзеці сваю працу. Не пазнаць яе. Вясной тут ня так было. А зараз— вялікі багаты ўраджаем гарод. Тут і моркаў, і цыбуля, і капуста і бульбы які пляц! Нават кукуруза, як лес парасла.

І садавіны колькі зарадзіла!..

Калі настаўнік зайшоў на гарод паклікаць усіх у школу, дзеці абступілі яго:

— Дзядзька настаўнік, калі ўбіраць будзем?

— Ужо бульба пасьпела. Зірнеце, цяўнік пасох.

— Будзем, будзем, дзеткі. На днях. У выхадны дзень. Папросім з калгасу людзей, бо самі-ж мы рады не дамо,— суцішыў настаўнік дзяцей.



— Чаму гэта не дамо? — пакрыўдзіўся Клімка, вучань 2 групы.

— Справімся і самі,—загаманілі і другія.

— А выворваць вы будзеце бульбу?

Дзеці вінавата пераглянуліся. Праўда, як-жа яны самі выаруць без каня, бяз плуга, без рабочага?

Але Клімка не здаваўся.

— А буракі хіба выворваць трэба?

— Ну, буракі—другая справа. А бульбу трэба,—адказваў настаўнік. — Вось у наступны выхадны дзень зьбірайцеся ўсе, будзем убіраць гарод, а зараз — у школу. Сягоньня, дзеці, дзень вучобы.

* * *

У выхадны дзень вучні сабраліся на гарод. Прышлі нават і дашкольнікі. Цікава паглядзець! Весела тут.

Калгас прыслаў сваіх рабочых памагчы школьнікам.

Дзядзька Цімох выворваў бульбу. Дзеці— хто з кошыкам, хто з карзінкай — усьлед выбіралі.

— Дайце хаця разараць, — крычаў, усьміхаючыся, дзядзька Цімох на дзяцей, якія з-пад ног хваталі бульбу.

— Толькі чысьценька выбірайце, — загадаў настаўнік.—Каб ніводнай у зямлі не пакінулі.

Настаўнік вылучыў групу дзяцей і пашоў з імі ў сад. Там зьнімалі яблыкі і грушы.

Пад вечар повен школьны склеп навазілі бульбы. Яблыкі злажылі ў хляве на разасланай саломе.

— Цяпер мы будзем мець гарачыя сьнеданьні,—цешыліся дзеці, калі скончылі ўсю работу.

# Будаўнікі

Зерш дзяткора Я. ХОМЧАНКІ.

Дзінь-бом-тук, дзінь-бом-тук!
Чуцен гоман, чуцен стук.

Гэта ўдарна Янка Галка
Рамантуе тут сявалку.
А старэйшы Юзік з Верай
Робяць новыя кватэры.

Таня, Петрык і Валодзік
Ладзяць градкі на гародзе.
А маленькі Валісь рады, —
Змайстраваў ён новы трактар.

Дзеці дружна увесь час
Тут будуюць свой калгас.
Працавалі гэтак зраньня
Аж да познага зьмярканьня.
І прышоў чаканы час —
Адбудованы калгас!



# Прывычка

Апавяданьне Г. БЕЛЫХ.
Малюнкі ЦІХАНОВІЧА.

Дождж прайшоў, а вада з труб цурчыць ды цурчыць.

Васілёк з Петрыкам выскачылі на вуліцу.

Насустрач два п'яныя: адзін сьпявае, а другі скакаць пачаў. Толькі нагу падняў, ды як грымнецца на брук і ляжыць носам дагары.

— Ай-ай-ай!—крычыць Петрык.—Вось дык грукнуўся!—і сьмяецца.

Тут васількова маці выскачыла з-за варот.

Спынілася каля п'янага ды крычыць:

— Зноў налізаўся, нячыстая сіла!

Паглядзеў Васілёк, а гэта яго бацька валяецца.

І Васільку адразу сумна стала. І сонца спахмурнела, і неба шэрым нібы зрабілася.

* * *

Вось які ў Васілька бацька! Сустрэў на вуліцы таварышоў, дахаты праз гэта ракам паўзе.

І на гэты раз таксама. Толькі, відаць, здорава налізаўся быў, бо нават не сьпяваў, а толькі памармытаў хвіліну і заснуў.

— Няшчасныя мы, — плакала маці,—п'яніца бацька ў нас.

Доўга спаў бацька — чатыры гадзіны спаў. Нарэшце прачынаецца.

Глядзіць Васілёк на бацьку—ляжыць ён, чмокае, губы аблізвае і крывіцца.



*Паглядзеў Васілёк, а гэта яго бацька валяецца.*


*Васілёк купіў лемантар.*

— Ой,—кажа,—як сьмярдзіць з роту, пах такі нядобры, нібы жабаў наеўся.—А сам не глядзіць на Васілька, ведае, што ўсе злуюцца на яго.

— А ты-б ня піў,—кажа яму Васілёк.—І жабаў ня было-б.

— Дык дзіва!—узьнімае голас тады бацька. — Як-жа ня выпіць, калі наш майстра — тав. Пятроў—імяніньнік? Не-е, ня выпіць нельга. Прывычка ўжо такая.

— Добра, пі сабе, — зноў кажа Васілёк. — Я вось пайду да дзядзькі Янкі, які насьценную газэту робіць і скажу яму, каб цябе у газэце як п'яніцу намаляваў, з бутэлькаю.

Бацька нават губы лізаць перастаў. Паглядзеў на Васілька ўважліва.

— Бачыш, вожык які,—кажа.

Пасьля зноў сьмяецца:

— Не паслухае цябе дзядзька Янка. Надоячы разам у піўной сядзелі.

— Добра, — кажа Васілёк, — я ў другую пайду. У сапраўдную газэту пайду, усё раскажу пра цябе, што ты п'яніца.

— Зноў нічога ня будзе,—крычыць радасна бацька.— Там, брат, строга. А ну, скажуць, хлапец, напішы вось пра ўсё, што расказаў, на паперы ды падпішыся сваім прозьвішчам, а ты і пісаць ня ўмееш.

Задумаўся Васілёк. Праўду бацька кажа. І бацька павесялеў, задаволеным з ложка саскочыў і кажа сур'ёзна:

— Вось і выходзіць—малы ты, каб бацьку вучыць.

Вялікая на бацьку крыўда ў Васілька.

Што няграматны Васілёк, дык і лаяць яго можна. А вось ён возьме ды і стане граматным, ды ліст у газэту такі напіша, што цэлы тыдзень бацька скакаць будзе.

І вырашае Васілёк—куплю лемантар.

Парашыў і ўжо цярпець ня можа. Схапіў шапку і да маткі.

— Дай грыўню!

Пабурчала маці, але грыўню дала. Пабег радасны Васілёк.

Знайшоў кнігарню.

Купіў лемантар, не паглядзеў нават які, пабег дахаты.

Ідзе ён ужо праз двор, а з-заду Петрык Канапаты даганяе.

— Эй,—крычыць,—што нясеш?

Паказаў кніжку Васілёк і стаў пра бацьку расказваць, як бацька пакрыўдзіў яго, а пасьля ўздыхнуў цяжка.

— Няшчасныя мы з мамаю,—кажа, — бацька ў нас п'яніца. Ніяк ад гарэлкі не адвучыць.

Петрык галавою пакруціў. Але Васілёк ня любіў доўга сумаваць.

— Нічога—кажа,—вось навучуся грамаце, я яму дам.

— Я таксама літары розныя ведаю,—сказаў Петрык.— І нават як пісаць.

Зарадаваўся Васілёк. — Навучы, просіць, мяне.

— Добра, згадзіўся Петрак, буду вучыць.

* * *

Прыходзіць аднаго разу бацька дамоў, толькі крыху падпіўшы. Распранаецца і мармыча сваю любімую песеньку пра чай. Потым падыходзіць да Васілька. Васілёк за сталом сядзіць і перад ім ліст, а на лісьце нязграбнымі кручкамі набэрсана: А. Б. В...

Дзівіцца бацька.



*І бацька стаў паказваць Васільку, як пісаць.*

— Што гэта, сынку? Няўжо грамаце навучаешся?

Бачыць Васілёк, — нічагусенькі ня памятае бацька з тае размовы.

— Ну, ну,—кажа,—вучыся. Дай я табе памагу.

Сеў поплеч.

І стаў паказваць, як пісаць. Васілёк усё разумее. Радуецца бацька, што Васілёк растаропны такі, хваліць.

— Малайчына! Проста вучоны!

І Васілёк рады, што пахвалілі яго.

— А я яшчэ і слова адно ўмею напісаць,—кажа ён і напісаў:—гарэлка.

— Здорава!—дзівіцца бацька.—Толькі дарэмна з гэтага слова вучыцца пачынаеш.

— Нічога не дарэмна, — адказвае Васілёк. — Вось навучуся—буду пра цябе пісаць у газэту.

Бацька і рот разявіў, нахмурыўся:

— Ды як ты асьмеліўся гэта на роднага бацьку?

— А ты ня пі,—кажа Васілёк.

* * *

Многа дзён мінула. А Васілёк усе вучыцца.

Вось аднойчы, у выхадны дзень, бацька з маткаю адзеліся і вышлі.




Астаўся Васілёк адзін.

Доўга думаў — увесь аловак абгрыз, потым палажыў паперу на вакно і памаленьку, водзячы дрыжачай рукой, намаляваў на паперы няроўны радок літараў.

— Я уМЕю чэТаць і песАЦь.

Ходзіць Васілёк па хаце з гонарам, жывот наперад выставіў.

— „Ну,—думае Васілёк,— нічога. Няхай паспрабуе цяпер".

* * *

Надышоў дзень палучкі.

Ня было яшчэ здарэньня, каб бацька цьвярозы прыходзіў з палучкі. Васілёк усё на гадзіньнік паглядаў, а калі час прышоў, адзеў шапку і пабег на завод.



*Спыніўся бацька. На Васілька сур'ёзна глядзіць.*

Падыходзіць ён да заводу, гудкі загулі. Вышлі з варот рабочыя, сярод іх і васількоў бацька. Васілёк яму насустрач кінуўся.

Зарадаваўся бацька—усьміхаецца.

— Цікава,—кажа, — сустракаць прышоў. Ну, хадзем скарэй абедаць...

— Абедаць?—дзівіцца Васілёк.

— А што-ж тут дзіўнага?

— А піць ня будзеш?

Спыніўся бацька. На Васілька сур'ёзна глядзіць, нібы хоча даведацца, ці не жартуе Васілёк? Потым ўсьміхнуўся і кажа ціха:

— Гарэлка, гэта— атрута. Кінуў я піць, Васілёк. Хоць проста скажу—ты памог мне вельмі. Бачу, сябе не шкадуеш, каб бацьку прысараміць. Ну і сапраўды брыдка стала. Вось і ня п'ю, хоць і цягне прывычка, але ня буду піць.

# МЫ—ШЭФЫ МАЛАДНЯКА

Каб мець нам многа мяса
І многа малака,
Мільёны мы гадуем
Цялят—маладняка.

Калгасам і саўгасам
Мы будзем памагаць
Вось гэтыя мільёны
Скарэй нагадаваць.

Каб сівернай зімою
Наш маладняк ня склеў—
Патрэбен добры догляд
І цёплы, сьветлы хлеў.



ПАБУДОВА НОВАГА ХЛЯВА Ў КАЛГАСЕ.



МЫ ПАВІННЫ ВЫГАДАВАЦЬ МІЛЬЁНЫ ГАЛОЎ КАРОЎ, КАБ МЕЦЬ МНОГА МАЛАКА І МЯСА.

# Курсы трактарыстаў

Верш Р. ХАЦКЕВІЧА.

У саўгасным клюбе,
Дзе нярэдка хлопцы
Шмат праводзяць розных
Гульняў і гурткоў,—
На стале даўжэзным
Ад матору колцы,
Многа розных шрубак,
Трубак і цьвікоў.

Прагна ловяць вушы,
Прагна вочы ловяць
Кожны зірк і слова,
Рух кіраўніка.
Трэба-ж добра ўцяміць,
Наўсягды запомніць
Прызначэньне кожнай
Шрубачкі, цьвічка.

Слухаюць курсанты.
Ціхата навокал.
Малады запал іх
Захапіў зусім.
З маладых калгасаў—
Блізкіх і далёкіх—
У саўгас на курсы
Іх прыслалі ўсіх.

Бальшавіцкіх вёснаў
Юныя героі
Хочуць ніў савецкіх
Тэхнікамі стаць,
Каб на гонях нашых
Ураджай патроіць,
Каб шумней шумела
Аржаная гладзь.

Вось таму так прагна
Вочы й вушы ловяць
Кожны зірк і слова,
Рух кіраўніка...
Трэба добра ўцяміць,
Наўсягды запомніць
Месца кожнай шрубкі,
Трубачкі, цьвічка.



**А. ДЫЛА**

# Апавяданьне пра паліто



Малюнкі САМАТЫЯ.

— Вы ўсе носіце паліто, а ня ведаеце, як яны шыюцца, — сказала настаўніца.—Сёньня мы паедзем знаёміцца з гэтаю работай.

— Паедзем! Паедзем!—радаваліся школьнікі.

Праз некаторы час вясёлыя ехалі яны ў трамваі на фабрыку.

На фабрыцы экскурсію сустрэў кіраўнік ад рабочых і павёў дзяцей знаёміць з работаю фабрыкі.

— Пачнем усё спачатку. Вось гэта дэкатыровачная,— сказаў ён, адчыніўшы дзьверы ў пакой. У гэтым пакоі было вельмі горача ад пары.

„Як у лазьні“, падумалі дзеці.

— Перш, чым пачынаюць шыць вопратку, матэрыю дэкатыруюць. Гэта значыць, прапускаюць яе праз паравую машыну, тады яна робіцца моцнаю, ня будзе пляміцца

і зьбягацца, калі яе носіш. Дэкатыруюць толькі суконную і шарсьцяную матэрыю.

З цікавасьцю глядзелі дзеці, як скручаная ў вялікія трубкі матэрыя круцілася ў паравой машыне.

Потым пайшлі на другі паверх, каб паглядзець, што робяць далей з гэтай матэры.

— Гэта закройны цэх, тут складаюць і крояць матэрыю,—тлумачыў кіраўнік.

Дзьве жанчыны хутка і роўненька складалі матэрыю ў многа столак.

— Ж... ж... ж...—чулася тут-жа з боку прарывістае гудзеньне. Паглядзелі дзеці туды і ўбачылі рабочага, які кроіў матэрыю электрычнай машынкай. Звычайнымі нажніцамі гэтулькі матэры скроіць нельга.

Машынкай адразу кроюць аж трынаццаць столак, калі матэрыя тоўстая, а калі танчэйшая — дык можна і 50 столак.

— Адсюль скроеныя паліто тачкамі возяць у пашывачны цэх, куды зараз мы і пойдзем,—гаворыць кіраўнік.

Шум і грукат сустрэў дзяцей у вялікім пакоі, і адразу яны нават не маглі нічога разгледзець. Праз увесь пакой стаялі доўгія сталы ў чатыры рады, а за імі сядзелі і працавалі жанчыны і мужчыны.

Дзеці падышлі бліжэй.

На першым стале рабочы прышываў беленькі білецік да скроенага паліто.

— На што ён гэта робіць?



*Матэрыю прапускаюць праз паравую машыну.*



*Пашывачны цэх.*

— Ён прышывае ярлычкі з нумарамі, каб ня зблытаць паліто і каб каўнер ці рукаў ад аднаго паліто ня прышыць да другога.

На другіх сталох шылі рукавы, фастрыгавалі і сшывалі бакі, шылі каўняры і кішэні.

Гатовае паліто, але без падшыўкі і гузікаў, прасавалі электрычным жалязкам. Адпрасаваўшы, аглядалі, ці добра пашыта.

У канцы пакою віднелася скрынка, глыбокая, як яма. Рабочы, агледзеўшы паліто, кідаў яго ў гэтую скрынку. Падбеглі дзеці да скрынкі і ўбачылі, як на самым дне нейчая рука пацягнула паліто к сабе.

— Таварыш кіраўнік!

— Дзядзька, ай,-яй, глядзеце, нехта ўзяў ваша паліто.

— Вось як,—засьмяяўся кіраўнік,—ну, дык пойдзем паглядзім на ніз, хто-ж гэта такі ўзяў паліто?

Спусьціліся дзеці на першы паверх. Зноў вялікі пакой і тут чатыры брыгады шыюць.

— А вось яно тое паліто, — паказаў кіраўнік на рабочага, які ўжо прышываў подшыўкі да яго.

Тут-жа за загарадкай стаяла шмат жанчын у паліто. Гэта былі манэкены (такія драўляныя фігуры, нібы людзі), на якіх віселі паліто, а іх чысьцілі работніцы мяцёлкамі.



*Гатовае паліто прасуюць электрычным жалязкам.*



— А колькі паліто сшываюць рабочыя за дзень?

— Многа, больш за тры тысячы.

— А адзін рабочы колькі шые за дзень?

— Тры паліто.

— Тры штукі?

— Адзін рабочы? — зьдзівіліся дзеці.

— Так, адзін рабочы. І ўсё гэта таму, што тут праца мэханізавана, падзелена. Каб захацеў рабочы пашыць адно паліто без падзелу працы, дык ён патраціў-бы ня менш 3 дні, а так бачыце, як ідзе спорна праца. Тут на кожныя часткі ёсьць спэцыяльныя машыны. Такая работа называецца работай па канвэеру...

Вычышчаныя паліто панесьлі ў сартыровачную, куды пашлі і дзеці. У сартыровачнай паліто раскладваюць па гатунках і адносяць у паковачную.

— Тук-тук-тук... — весела стукаюць малаткі, заганяючы цьвікі ў скрынкі.

— Адсюль запакаваныя ў скрынкі паліто развозяць цягнікі па каапэратывах Савецкага Саюзу, а тыя прадаюць іх рабочымі сялянам.



# ЯК ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ



Янка вучыцца ў школе. Ён хоча добра пісаць, чытаць, лічыць. Ён хоча быць дужым, здаровым. Хоча сам за варштатам працаваць. Хоча свайму калгасу памагаць.





Як працуе Янка?

Янка ў рабочым пакоі габлюе дошку. Тут ён працуе рукамі.

У клясе Янка чытае кніжку. Тут ужо ня рукамі, а галавою прыходзіцца працаваць.

Хочацца Янку пагуляць, пабегаць. Ён пачынае фізкультурай займацца.



Так працуе Янка. І рукамі, і галавой, і нагамі.

Усе дзеці павінны працаваць так, як Янка. Усе павінны быць здаровымі і дужымі.




# Пасека

**Верш М. ЛУЖАНІНА**
**Мал. САМАТЫЯ**

Вышлі
з хаты.
На небе
вясёлка.
Кветак багата,—
На кожнай
пчолка.
Тут пчолка,
там пчолка —
Ня зьлічыш колькі.



Тут селі,
там пасядзелі
і паляцелі.
У кожнай
ношка —
мёду патрошку.
Лятуць у вулей.
Для пчолак
гэта пасёлак.
Там-жа мядовы спрат,
па-нашаму—склад.

У пчолак зрана
чыста прыбрана,
зьлеплен сот:
— Выкладай мёд!
Працы многа,
трэба ўвіхацца.
У пчол строга
разьмяркована праца.

Ёсьць работніцы—
мёд зьбіраць
ахвотніцы,
ёсьць будаўніцы —
лепяць сот,
ёсьць вартаўніцы —
пільнуюць мёд.

Ёсьць прыбіральніцы,
ёсьць санітарніцы,
і—на астатак—
пчала-вэнтылятар.
Махае крыльцамі
махнатае рыльца:
паветра хвалюецца,
благое выходзіць,
так вэнтылюецца,
нікому ня
шкодзіць.

А пчолка, што
кеміць,
як мёд захаваць,
завецца —
хэмік.

О-о! галава!
Усё ў парадку:
мёдам і ўзяткам
камандуе матка,
даўгая,
як голка
пчолка.

Пчалiная праца
мае зьмест:
„хто не працуе,
той ня есьць“.
Калі ты мала
мёду сабрала,



ляці на гала,
зьбярэш—прынясі,
тады й пад‘ясі.
Пчаліны лотра
завецца труцень.
Есьць толькі мёд ён,
паветра труціць,
а працаваць —
крыльцы баляць.

Трутням
крута.
Усіх дазваньня
гоняць пчолы
з памяшканьня:
— Ты, гультай,
вылятай!

(*Канец чытай у № 18*).



ЗРАБІ САМ

# ДРУКАВАНЫЯ ЛІТАРЫ

**Сваю насьценгазэту, плякаты, лёзунгі вы можаце самі напісаць друкаванымі літарамі. Цікавей і прыгажэй будзе.**

**Як зрабіць такія літары?**

**Вазьмеце некалькі маленькіх дошчачак, старыя галёшы (ці так кавалак рызіны), якую-небудзь фарбу.**

**Выражце на рызіне ўсе літары. Потым прыклейце літары да дошчачкі. На кожную дошчачку па чатыры літары—з усіх бакоў.**

**Цяпер абмачэце літары ў фарбу і друкуйце.**

# Трывога

## ГУЛЬНЯ

Самалёты ворага падлятаюць да гораду.

Чырвонаармейцы стаяць на варце і гатовы кожную хвіліну абараняць горад.

Кіраўнік гульні дае сігнал:

— Трывога!

Чырвонаармейцы гатовы да бою.

Самалётамі камандуе камандзір.

— 1, 7, 11, 3, 4—крычыць ён.

Названыя самалёты кідаюць бомбы—мячы.

Чырвонаармейцы адбіваюць бомбы, стараючыся папасьці імі ў самалёт. Падбітыя самалёты выбываюць з гульні. Калі у горад папала 10 бомбаў — чырвоныя прайгралі. Калі палавіна самалётаў перабіта — самалёты прайгралі.

За ходам гульні ўвесь час сочыць кіраўнік.



# ЗАГАДКІ

## З АДГАДКАМІ

**1. Лісьцё якіх дрэў увосень чырванее?**

*Рабіны, асіны, клёну.*

**2. Куды ўвосень дзяюцца матылькі?**

*Некаторыя гінуць ад першых марозаў. Другія залазяць у шчыліны дрэў, дамоў і там зімуюць.*



**3. Ці ўюць гнёзды нашы пералётныя птушкі зімою на поўдні, у цёплых краінах?**

*Не.*

**4. Ці дыхае кураня ў яйцы?**

*Дыхае. Каб паветра не праходзіла ў яйцо, кураня задыхнулася-б.*

**5. Дзе ракі зімуюць?**

*У норах, па берагох рэк і азёр.*



**6. Што гэта значыць?**
**Вясною плача,**
**Летам ня ўбачыш нідзе,**
**А зімой ўніз галавою расьце.**

Прачыталі дзеці гэтую загадку і заспрачаліся.

— Гэта валёнкі, — сказала Гэлька, — ня іначай. Вясной прамоклі — вось нібы і плачуць. Летам іх схавалі — вось нібы і ня відаць нідзе. А зімою яны на нагах—вось значыць уніз галавой. Так і будзе — гэта валёнкі.

— Не,—сказаў Валік, — Гэта, мусіць, дожджык? А можа гэта...

Але давайце, дзеці, лепш самі адгадаем, што-ж гэта такое?

**7. Што птушкам страшней зімою—холад ці голад?**

*Голад страшней. Тыя птушкі, якія могуць знайсьці сабе спажыву, астаюцца ў нас зімаваць, хоць бы яны былі і пералётнымі—качкі, лебедзі (калі дзенебудзь застаецца непакрытая лёдам вада).*



**8. Тры браты на адным кані едуць па сшытку. Што гэта?**

*Пальцы і ручка.*

**9. Куды зайцу бегчы зручней: з гары, ці пад гору?**



*Пад гору. У зайца пярэднія ногі кароткія, а заднія доўгія. Таму заяц пад гору бяжыць лёгка, а з гары можа паляцець старчма праз галаву, калі бяжыць вельмі скора.*

**10. Які зьвер усю зіму сьпіць уніз галавою?**

*Кажан.*



**11. Хто майстра на ўсе рукі?**

*Той, хто робіць рукавіцы.*

**З гэтым нумарам усім нашым падпісчыкам рассылаецца дармовы дадатак гульня „ЗА УДАРНУЮ ВУЧОБУ“**


ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА. А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2160. 2800 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—5.

